№ 213 (1277)

Чацвер, 15 лістапада 2001 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночным захадзе — мокры снег. Вецер заходні, 5—10 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 0...-2, Мінску — 0...+2, Гродне, Брэсце — +1...+3, Гомелі — каля 0.

У наступныя двое сутак: 16-га — мокры снег, месцамі мяцеліца, парывы паўночна-заходняга ветру — 15—20 м/с, месцамі да 23 м/с. Тэмпература паветра ўначы і ўдзень — -4...+1; 17-га ўначы па ўсходзе і ўдзень па поўначы — кароткачасовы снег. Вецер паўночна-заходні 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -3...-8, удзень — -3...+2.



**ЗАКУЛИСЬЕ**

## Могилевские...

В России сейчас у власти — питерские. Президент, первый вице-премьер Алексей Кудрин, вице-премьер Илья Клебанов, реформатор-министр Герман Греф, советник президента по экономике Андрей Илларионов, великий Анатолий Чубайс, руководитель "Газпрома" Алексей Миллер...

В Беларуси "пануе" могилевско-шкловский клан: сам Лукашенко, премьер Геннадий Новицкий, вице-премьер Александр Попков, вице-спикер Владимир Коноплев, министр торговли и услуг Александр Куличков, министр связи Владимир Гончаренко, глава "Беларусбанка" Надежда Ермакова, председатель ЦИК Лидия Ермошина. Список неполный.

Объяснять, чем отличается Санкт-Петербург от Могилева, а тем паче от Шклова, никакой нужды нет. Всем понятно. Вторая столица России — город знаний с европейским лицом. И потому "экспорт мозгов" из города на Неве в Белокаменную никого не коробит. Так и должно быть.

Совсем другое дело могилевско-шкловские. Ну, ладно, Коноплев — друг детства, босиком вместе бегали. Понятно и назначение руководителем личной охраны Дверницкого, в прошлом шкловского милиционера — тут дело жизни и смерти. Ермакова — в прошлом "банкир" шкловского масштаба. А без денег, каждому известно, какая жизнь. Теперь вот и премьера подыскал своего... А были еще и "экс-администратор" Синицын, и "экс-управдом" Титенков, и экс-"телепомойщик" Кисель, и "экс-прокуратор" Божелко, и другие.

Могилевские и раньше дружно тянули одеяло на себя. Но, похоже, что сейчас они начинают превосходить уже и самих себя. О чем красноречиво свидетельствует проект главного финансового документа Беларуси на будущий год — бюджет-2002. Судите сами.

По налогу на добавленную стоимость от собранных средств Брестская область получит 66%, Витебская — 47%, Гомельская — 42%, Гродненская — 58%, Минская — 56%, Минск — 25%. А вот Могилевская — аж 91%! По налогам на доходы и прибыль юридических лиц Гомельская область, к примеру, получит 51,3%, столица — 33,3, Могилевская — 100%! Вот вам и региональная политика. А экономисты наивно задаются вопросом: почему власти не могут создать равные условия хотя бы для регионов, установив одинаковые ставки отчисления?

Могилевская "рубашка" ближе к телу. В бюджете-2001 субвенций, то есть выделения денежного пособия местным органам власти со стороны государства, этому региону было выделено 1,2 млрд., а на 2002 г. запланировано 2,1 млрд. — на 903 млн. больше. Чтобы дать больше могилевчанам, забирают у других. В проекте нового бюджета есть такая запись — *"финансирование расходов, связанных с осуществлением г. Минском функции столицы"* (25 млрд.). Это в два раза меньше в номинальном выражении, чем год тому назад. Остается только гадать — уж не задумал ли могилевский тандем "Лукашенко—Новицкий" переносить столицу из Минска в Могилев? Идея, известно, не новая. В свое время даже Дом правительства в городе на Днепре построили. Но вовремя угомонились. Теперь что, все по новой начнется? А может, стоит уже сразу в Шклове царские хоромы возводить?

... Можно не сомневаться — могилевские, увы, никогда не станут питерскими. Как бы они ни пыжились и не надували щеки. Потому что структура мышления у них совершенно другая. И в могилевском педагогическом никогда не научат тому, что вкладывают в мозги в питерском университете.

Ну, а минчанам, считавшим себя элитой страны, нанесли очередной удар "по мордам". Судьба Владимира Ермошина, Михаила Мясниковича, Михаила Демчука, Игоря Зеленкевича и иже с ними — тому верное подтверждение. Но это уже тема другой статьи.

**Владимир ГЛОД.**

# Іх лёс хвалюе Беларусь!

**Юрый ЗАХАРАНКА**



**921 дзень таму знік.**

**Віктар ГАНЧАР**



**789 дзён таму знік.**

**Анатоль КРАСОЎСКІ**



**789 дзён таму знік.**

**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**



**493 дні таму знік.**

**Андрэй КЛІМАЎ**



**1372 дні за кратамі.**

## Вяртанне беглага "вертыкальшчыка"

**У Ветцы Гомельскай вобласці арыштаваны міліцыяй зніклы ў студзені 2000 года, у хуткім часе пасля вынясення крымінальнага прысуду, былы старшыня райвыканкама Васіль Воінаў.**

Начальнік веткаўскай міліцыі Аляксандр Гвоздзеў пацвердзіў, што Васіля Воінава затрымалі ў райцэнтры ў яго ным доме. І стала гэта вынікам аператыўна-вышуковай дзейнасці.

Начальнік міліцыі паведаміў таксама, што былы старшыня райвыканкама больш як паўтара года лічыўся ў міжнародным вышуку, а хаваўся нібыта ў суседняй Расіі — у Маскоўскай вобласці.

Іншыя крыніцы, у тым ліку і ў пракуратуры, сцвярджаюць, што Воінаў апошнім часам жыў у Казахстане. У Ветку вярнуўся сам і добраахвотна здаўся міліцыі.

З Веткі Васіля Воінава прывезлі ў следчы ізалятар абласнога цэнтра, дзе ён чакае адпраўкі ў калонію ўзмоцненага рэжыму.

Нагадаю чытачам, што судзілі былога раённага "вертыкальнага" Воінава ў верасні 1999 года разам з дырэктарам саўгаса "Свяцілавіцкі" таго ж Веткаўскага раёна Васілём Кудлянковым па трох артыкулах крымінальнага кодэксу — за крадзеж у асабліва буйных памерах, службовы падлог, незаконнае захаванне зброі і боепрыпасаў.

Рашэнне калегіі крымінальных спраў Гомельскага абласнога суда было суровым. Воінава асудзілі да пазбаўлення волі тэрмінам на 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму ды яшчэ з канфіскацыяй маёмасці. Пасля адбыцця пакарання яму забаронена яшчэ 4 гады займаць кіруючыя пасады.

Саўгасны кіраўнік Кудлянкоў таксама атрымаў 4 гады турмы. Было даказана, што, апрача ўсяго іншага, ён перавышаў уладу, ужываў гвалт у адносінах да рабочых, учыняў хуліганства з пагрозамі расстрэлу і прымяненнем пісталета.

Дырэктара Кудлянкова пасадзілі за краты яшчэ да суда. Таму з яго адбыццём пакарання ў міліцыі не было праблем. Зараз Кудлянкоў наогул адпушчаны з турмы — лічыцца на волі ўмоўна асуджаным да заканчэння тэрміну пакарання.

Раённага "вертыкальнага" на час следства пашкадавалі. Ён знаходзіўся дома пад падпіскай аб нявыездзе. Не зменена была мера ўтрымання і пасля абвяшчэння прысуду калегіяй крымінальных спраў абласнога суда.

Не дачакаўшыся разгляду касацыйнай скаргі ў Вярхоўным судзе, былы старшыня райвыканкама знік. Яго жонка звярнулася ў міліцыю з заявай, што 21 студзеня 2000 года муж паехаў у абласны суд чытаць пратакол і дамоў не вярнуўся. З таго часу былы кіраўнік раёна і знаходзіўся ў вышуку.

Што прымусіла Васіля Воінава вярнуцца ў Ветку зараз, з упэўненасцю адказаць цяжка. Дзіўным, аднак, падаецца тое, што калі ён знік, ніхто за гэта не атрымаў нават вымовы.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ.**

## Каб не скардзіліся

**Сваім рашэннем ад 22 кастрычніка бягучага года выконваючы абавязкі Крычаўскага міжрайпракурора юрыст 1-га класа А.Міхневіч узнавіў крымінальную справу ў адносінах да журналістаў крычаўскага незарэгістраванага выдання "Вольны горад". Самі журналісты даведаліся пра гэта толькі напрыканцы мінулага тыдня, калі іх зноў пачалі выклікаць на допыты.**

Нагадаем, што справа на Вадзіма Сцефаненку, Сяргея Няроўнага і Мікалая Маторанку была заведзена яшчэ ў ліпені. Тады журналісты падазраваліся ў незаконным пазбаўленні волі супрацоўніка аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Крычаўскага РАУС лейтэнанта міліцыі Рыбчынскага. Самі падазраваемыя ўпэўнена звязалі гэты дастаткова сур'ёзны "наезд" улады са сваёй перадвыбарчай актыўнасцю. Пацвярджэннем гэтага могуць служыць і неаднаразовыя канфіскацыі накладаў "Вольнага горада", і спробы вынясці камп'ютэрнай тэхнікі (падчас апошняй з іх для патраплення ў офіс выдання міліцыянты выкарыстоўвалі звычайныя ламы), і беспадстаўныя затрыманні супрацоўнікаў газеты, і шмат што яшчэ.

Аднак, нягледзячы на яўную палітычную падаплёку, відавочнасць абсурднасці справы прывяла да яе закрыцця 12 кастрычніка з фармулёўкай "з-за адсутнасці складу злачынства".

Журналісты не спыніліся на дасягнутым і падрыхтавалі неабходныя дакументы для звароту ў суд з мэтай спагнання маральнай шкоды з Крычаўскага РАУС. Пасля гэтага в.а. Крычаўскага міжрайпракурора палічыў закрыццё справы незаконным і ўзнавіў следства па ёй.

**Андрэй КУЗЬМІН,**
**кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**

**г.Крычаў.**

## На трэць вырас кошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска

**Пасля амаль 10-месячнага перапынку вырас кошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска. Тарыфы павялічыліся на 33 працэнты: з 60 да 80 (поўны) і з 30 да 40 рублёў (ільготны). Талоны, што рэалізуюцца вадзіцелямі, выраслі ў цане з 75 да 100 рублёў.**

С 1 снежня на трэць вырасце кошт месячных праязных білетаў. Напрыклад, поўны праязны на ўсе віды транспарту падаражэе з 4.800 да 6.400 рублёў.

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, стратнасць перавозак гарадскім пасажырскім транспартам дасягае 60 працэнтаў. З павелічэннем тарыфаў яна павінна знізіцца да 45 працэнтаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**ПУЛЬС**

## Амерыканцы асуджаюць закрыццё "Пагоні"

**Міжнародная прыватная арганізацыя "Камітэт па абароне журналістаў" (КАЖ), штаб-кватэра якой змешчана ў Нью-Йорку (ЗША), распаўсюдзіла праз сродкі масавай інфармацыі заяву, у якой "асуджае рашэнне Вышэйшага эканамічнага суда Беларусі закрыць незалежны штотыднёвік "Пагоня".**

"Пагоня" крытыкавала прэзідэнта Лукашэнку, а таксама размясціла на сваіх старонках заяву незарэгістраванай грамадскай установы — за гэта атрымала два папярэджанні ў 2000 годзе, і вось зараз закрыта.

Урад Лукашэнкі пасля выбараў 9 верасня, вынікі якіх былі падтасаваны дзяржавай, распачаў сапраўдную чыстку сярод незалежных мясцовых медыя. "Пагоня" стала чарговай ахвярай", — сказана ў заяве КАЖ.

Выканаўчы дырэктар камітэта Эн Купер адзначыла: "Мы рашуча асуджаем закрыццё "Пагоні". Апошні крок беларускага прэзідэнта яшчэ раз прадэманстраваў вульгарнасць метадаў яго кіравання Беларуссю".

**Мікола БУСЕЛ.**

## Праект бюджэту Беларусі на 2002 год — нерэальны

**Пра гэта на прэс-канферэнцыі заявіў эксперт аналітычнага цэнтра "Стратэгія", намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Яраслаў Раманчук.**

Паводле яго слоў, праект бюджэту пралічаны, зыходзячы з завышаных тэмпаў эканамічнага росту, ён не ўлічвае стан рэальнага сектара эканомікі, сур'ёзны дэфіцыт інвестыцыйных рэсурсаў, страту беларускімі прадпрыемствамі канкурэнтаздольнасці як на ўнутраным, так і на знешнім рынку, перш за ўсё — на рынку Расіі.

Бюджэтная палітыка ў Беларусі па-ранейшаму застаецца закрытай, непразрыстай і непадкантрольнай грамадскасці і выбаршчыкам. У кансалідаваным і рэспубліканскім бюджэтах запісана толькі частка даходаў і расходаў дзяржавы. Многія артыкулы расходаў і даходаў па-ранейшаму застаюцца закрытымі, што не дазваляе ацаніць эфектыўнасць функцыянавання ўрада, Адміністрацыі прэзідэнта і іншых структурных падраздзяленняў.

Акрамя гэтага, падатковая сістэма застаецца надзвычай складанай, зарэгуляванай і налічвае 39 розных падаткаў і збораў. Пры гэтым захоўваюцца дзесяткі льгот і прывілей для стратных сектараў, суб'ектаў гаспадарання і рэгіёнаў. На думку Раманчука, існуючая падатковая нагрузка дыскрымінуе малы і сярэдні бізнес і кансервуе інвестыцыйны, фінансавы і прамысловы крызіс у беларускай эканоміцы.

Аналіз бюджэту 2002 года сведчыць аб тым, што яго расходы не сканцэнтраваны на праграмах па абароне рэальна бедных і малазабяспечаных слаёў насельніцтва. Сродкі атрымліваюць сотні структур, якія робяць дзяржаўную сістэму ўлады празмерна складанай і дарагой для падаткаплацельшчыка.

**Аляксей АРЭШКА.**

# Мрачный калейдоскоп



**Людмила ГРЯЗНОВА, член оргкомитета Хартии'97**

### "Ворон к ворону летит..."

Почти два столетия назад Александр Пушкин написал стихотворение о богатыре, лежащем под ракитой. "Кем убит и отчего, знает сокол лишь его, да кобылка вороная, да хозяйка молодая". Прошло много лет, и в белорусской стороне "хозяйки молодые" — Людмила Карпенко, Ольга Захаренко, Зинаида Гончар, Ирина Красовская, Светлана Завадская — ждут не дождутся своих милых.

Во второй половине сентября и в октябре независимые средства массовой информации, затрагивая тему политических убийств в Беларуси, поведали следующее. По сообщению МВД Германии, нет никаких сведений о нахождении Юрия Захаренко на территории страны, а также о том, жив ли он. Несмотря на усилия некоего швейцарского журналиста Райнера Хаферкампа, ни одна центральная немецкая газета не опубликовала его "утку" о нахождении Юрия Захаренко в Германии. По словам влиятельного немецкого журналиста Маркуса Венера, подобная информация является провокацией, инициаторы которой находятся в Беларуси.

Бывший следователь прокуратуры Олег Случек рассказал о разработанной в Беларуси схеме идеального убийства и ее использовании на криминальных авторитетах. Первыми попали "под раздачу" "Щавлик" и "Мамонтенок". Многозначительное заключение можно сделать из слов А.Лукашенко, сказанных им 30 октября: "Был случай, когда они себя неправильно вели. Помните вы этих "Щавликов" и других? Где они теперь?" Михаил Медведев, начальник Комитета по борьбе с организованной преступностью и коррупцией МВД заявил, что "Щавлик" — Владимир Клещ — пропал без вести.

Андрей Жерносек и сотрудник КГБ Геннадий Угляница огласили весной сенсационные сведения о схеме идеального убийства людей с помощью "эскадрона смерти". Был дан даже адрес одного из свидетелей по делу исчезновения Гончара и Красовского.

Бывший начальник Минского следственного изолятора Олег Алкаев в ответ на слова А.Лукашенко "Где закопано?" ответил: "Я ему обещаю показать, где закопано. Но у меня нет власти — как я могу показать? Чтобы показать, мне нужна власть генерального прокурора. Тогда я все покажу — где закопано, кто закапывал и когда".

Что касается "расстрельного" пистолета, то Олег Алкаев считает, что "профессиональных и надежных пистолетов с глушителями не так много. Если связываться с криминальниками, покупать у них оружие, то это заметят. В милиции все отнятое оружие на учете, оно отстреляно и находится в пулегильзовой картотеке. Но основная моя версия — то, что это сделано, чтобы придать убийству характер исполнения смертного приговора. Ибо тогда будто бы грех с души немного снимается. Так оно и произошло. Исполнители же не задумывались, что делают. Им приказали, они и исполнили. А после этим гордились — им же даже ордена потом дали".

### Айсберг

Политические убийства, жестокое обращение власти с гражданами, отказ в справедливом открытом суде — от всего этого страдают многие белорусы. Но нарушения, связанные с неприкосновенностью личности, как айсберг. Верхушка (обнародованные факты) несоизмерима с подводной частью ледяной глыбы.

Благодаря независимым СМИ и оппозиционным организациям в мире знают об Андрее Климове, осужденном по официальной трактовке за экономические преступления, а на самом деле — за политическую деятельность. Михаилу Чигирю не дают возможности защищать сына Александра, который более девяти месяцев находится в следственном изоляторе. Как отсутствие независимого суда оценил Михаил Чигирь и отказ Минским городским судом в жалобе по поводу клеветы на них со стороны Белорусского телевидения. Суд по делу сына Тамары Винниковой Сергея, осужденного на два года исправительных работ за незаконный оборот наркотиков, был объявлен закрытым. Судья А.Симонов по делу Дмитрия Завадского также объявил суд закрытым и, судя по всему, намерен завершить его как можно быстрее. К защите интересов Светланы Завадской не допущен Андрей Бастунец, юрист БАЖа. Верховный суд Беларуси отказался рассматривать жалобу БХК о признании минувших президентских выборов недействительными. Прокуроры Гомельщины не реагируют на факты нарушений избирательного законодательства, изложенные более чем в ста жалобах. Начался судебный процесс над милиционерами Первомайского райотдела Минска. Их обвиняют в избиениях, вымогательствах, незаконном использовании оружия...

### Машина репрессий

После выборов 9 сентября машина политических репрессий — задержаний, предупреждений, штрафов и арестов — не остановилась. Были задержаны активисты витебского филиала Международного объединения им. Карпенко за пикет "Хотим знать правду!"; участники акции Молодого фронта, посвященной минским подпольщикам; мозырские активисты БНФ Дмитрий Букатов и Алексей Гамаюнов за участие в перфомансе, посвященном "Дожынкам-2001"; руководитель витебского отделения МФ Виктор Шляхтин и шесть молодофронтовцев за акцию "Бомжинки"; 20 участников акции МФ против фашизма в Беларуси; активисты Всемирного объединения белорусских евреев Яков Гутман и Владимир Рубинчик за протест против разрушения здания бывшей синагоги. Вызван на допрос председатель Свободного профсоюза МТЗ Вячеслав Козел по подозрению в организации акции протеста.

Получили предупреждения председатель барановичской организации БНФ Алесь Пикул и член социал-демократической партии "Народная Громада" Леонид Труханович за участие в акции "Цепь неравнодушных людей"; борисовские активисты "Зубра" Екатерина Дедко и Дмитрий Вишневский — за то, что держали портреты исчезнувших людей; могилевский лидер молодежного объединения "Паходня" Сергей Гиркин — за участие в акции "Хотим знать правду!"; активист БХК Алексей Сорока — за участие в акции против преследования властями независимого еженедельника "Белорусские навины"; жительницы Бобруйска Янина Овсяник, Ева Устимчук, Любовь Санкович — за голодовку, с помощью которой они пытались реализовать свое право на жилье и работу.


*(Окончание на 2-й стр.)*

РЭГІЁН

## У класах — па адным вучні

**На чарговым пасяджэнні Лідскага райвыканкама вырашана захаваць у вясковых школах некалькі класаў, дзе займаюцца толькі па адным вучні.**

Гэта тычыцца Паперненскай, Нёманскай, Канюшанскай і Моцевіцкай школ, дзе з-за беднасці мясцовых калгасаў нельга забяспечыць падвоз дзяцей на заняткі ў больш населеныя вёскі. А там, дзе параўнальна блізка ёсць іншыя школы, некамплектныя класы проста ліквідуюцца. Аднак у школах раёна не памяншаецца колькасць класаў, якія наведваюць толькі некалькі вучняў.

## Шлагбаум апусціцца на год

**На чарговай сустрэчы прадстаўнікоў улад Гродзенскай вобласці і Падляшскага ваяводства, памежнікаў Беларусі і Польшчы канчаткова вызначана дата закрыцця аўтапераходу "Брузгі—Кузніца Беластоцкая" — 21 лістапада.**

З гэтага дня рух аўтатранспарту праз мяжу спыняецца тут на год, што патрэбен польскаму боку для ажыццяўлення маштабнай рэканструкцыі сваёй часткі пераходу. Плошча яе пасля мадэрнізацыі складзе васемнаццаць гектараў, абсталяваных на ўзроўні памежных і мытных стандартаў Еўрапейскага Саюза. Тое, што Беларусь не зачыняе цалкам пераходы нават у час іх рэканструкцыі, што і "Брузгі" павінны часткова дзейнічаць пасля 21 лістапада, польскія ўдзельнікі сустрэчы пад увагу не прынялі. Замест "Брузгоў" польскі бок прапанаваў часова выкарыстоўваць больш інтэнсіўна другі памежны аўтапераход — "Бераставіца—Бабро́ўнікі".

Дарэчы, ужо не першы год працягваецца рэканструкцыя беларускай часткі пераходу "Брузгі—Кузніца Беластоцкая". І ў адрозненне ад польскай — увогуле невядома, калі закончыцца. Беларускім будаўнікам бракуе грошай, бо расійскі бок, па дамоўленасці з якім вядзецца рэканструкцыя, марудзіць з выкананнем сваіх фінансавых абавязацельстваў.

## У Еўропу за фермерскім досведам

**Аддзел знешніх сувязяў Гродзенскага аграрнага універсітэта рыхтуе дагавор з адной з маладзёжных арганізацый Францыі, якая бярэцца забяспечыць практыку беларускіх студэнтаў на фермах сваёй краіны.**

Ужо не першы год гродзенскія студэнты-аграрнікі маюць магчымасць знаёміцца з прафесійным досведам фермераў у краінах з высокаразвітай сельскай гаспадаркай. Сёлета 160 старшакурснікаў праходзілі практыку на фермах Англіі, Германіі, Ірландыі, Швейцарыі, Скандынавіі... Доўжыцца яна больш за чатыры месяцы. А справаздачу аб практыцы студэнту даводзіцца складаць на дзвюх мовах: роднай — для сваіх выкладчыкаў і на адпаведнай замежнай. Таму не дзіўна, што будучыя калгасныя спецыялісты ўзмоцнена штудзіруюць еўрапейскія мовы. Дарэчы, апошнім часам чатыры студэнты палічылі за лепшае не вяртацца ў родную навучальную ўстанову пасля замежнай практыкі.

## Вёска жыве дармавой энергіяй

**Як паведаміў для прэсы генеральны дырэктар РУП "Гроднаэнергія" Сяргей Белы, запазычанасць спажыўцоў энергарэсурсаў перасягнула небяспечную мяжу ў 70 мільярдаў рублёў.**

Асноўная частка гэтага велізарнага доўгу — больш за 50 мільярдаў прыпадае на сельскагаспадарчыя прадпрыемствы вобласці. З 300 калгасаў і саўгасаў Гродзеншчыны толькі 12 здолелі цалкам разлічыцца за мінулы абагравальны сезон, а 120 дагэтуль — напярэдадні новай зімы не пералічылі ні рубля на адпаведныя рахункі і працягваюць задарма карыстацца энергіяй. Таму РУП вымушана нарэшце ісці на пэўныя абмежаванні ў падачы электраэнергіі неплацежаздольнай сельскай гаспадарцы.

## Яны працуюць, а ім не плацяць

**На Гродзеншчыне, паводле надаўняй прамовы Аляксандра Лукашэнкі на абласным гаспадарчым актыве, запазычанасць па зарплаце складае 3 мільёны долараў.**

Дарэчы, на прамысловасць, дзе афіцыйная колькасць стратных прадпрыемстваў напярэдадні прэзідэнцкага візіту дасягнула 35 працэнтаў, прыпадае толькі 10 працэнтаў агульнаабласной запазычанасці па заробках. Больш за ўсё завінаваціліся сваім працаўнікам калгасы і саўгасы вобласці. А найгоршае становішча — у Ваўкавыскім, Воранаўскім, Мастоўскім, Лідскім і Ашмянскім раёнах. Невядома, па якім абменным курсе падлічвалі запазычанасць па заробках прэзідэнцкія дарадцы, а па дадзеных абласнога Камітэта дзяржкантролю яна перавышае 7 мільярдаў рублёў.

**Станіслаў СТОКА.**

АСОБА

*Алесь ПУШКІН:*

# "Нада мною толькі Бог і Муза"

**Скандальны мастак жыве за 150 кіламетраў ад Мінска, у мястэчку Бобр, дзе нават вітаміны алкагольныя**



*Фрагмент роспісу царквы.*

Над Бабром свеціцца храм. Божачка міласцівы, такога выдатнага роспісу не сустрэнеш і ў Мінску! Падчас нядзельнай службы бабкі ў храме "па-маладзёваму" спяваюць. Тут усё ладна і прыстойна.

Распісаў прыгожы храм вядомы скандальны і, як адзначаюць многія, вельмі таленавіты мастак Алесь Пушкін. Ён нарадзіўся тут, у мястэчку, скончыў Акадэмію мастацтваў у Мінску, папрацаваў у Магілёве ды Віцебску, а потым, як сам кажа, "узяўся за галаву" — ажаніўся з прыгожай беларусачкай Янай з-пад Стаўбцоў ды і асеў на радзіме сваіх продкаў.

Распісваў Алесь бабро́ўскую царкву, якую, дарэчы, пабудавалі прыхаджане за свае кроўныя, ажно тры гады — з 1995 па 1998-ы. Грошы атрымліваў выпадковыя: якая бабка два рублі дасць, якая — дзесяць. Нейкі бізнесовец прэзентаваў аж 100 долараў... Працаваў, як кажа Алесь, "за ідэю", і таму, што абяцанне даў бацьку свайму — зрабіць працу. Абяцанне выканаў, працу зрабіў добра. Вельмі добра. Зараз два разы на тыдзень прыходзіць на службу ў царкву — звоніць ў званы.

Алесь Пушкін не вельмі сумуе, што няма ў яго, скажам, джыпа "Гранд-Чэрокі" ці спадарожнікавай антэны на даху сціплай хаткі. Жыве з продажу сваіх карцін, выпадковых заказаў. А жонка ездзіць кожны дзень у Крупкі, дзе працуе настаўніцай і атрымлівае 100 тысяч рублёў.

Час ад часу Алеся запрашае да сябе былы суайчыннік у Германію, просіць намаляваць карціну-другую для нямецкіх бюргераў: гэта не надта падабаецца мастаку, але ж капейка-другая да сціплага сямейнага бюджэту, вядома, не пашкодзіць.

Паводле слоў самога Пушкіна, "мастак ён не камерцыйны, не кан'юнктурны". Лічыць, што лепш напісаць за жыццё 30—40 сапраўдных твораў, чым штампаваць стандартныя карцінкі і гандляваць імі на кірмашы. "Я вельмі рады, што ніякае начальства мною не камандуе, не ўказвае, што рабіць, — кажа Алесь. — Нада мною толькі Бог і Муза".

Многія сяляне, па праўдзе, не разумеюць "абібока" Пушкіна, "які нешта там пэцкае, а ў калгасе не працуе". Яны падтрымліваюць існуючую ўладу ды спяваюцца пацыху: хто не "залівае вочы" ў сваёй хаце мясцовым бабро́ўскім самагонам, спяшаецца ў бар, які чамусьці называецца "вітамінным". Там, па словах Пушкіна, многія часам так вітамінізуюцца, што з цяжкасцю валакуць ногі.

Аднойчы Алесь стаў сведкам смешнага эпізоду, калі наведвальніца адной з крамаў папрасіла гандлярку прадаць ёй "таблетачку ад галаўнога болю". Тая ў адказ, не гаворачы ні слова... прынесла бутэльку з танным вінам — самым папулярным напоем у беларускай правінцыі.

Ёсць сярод суседзяў народнага мастака Пушкіна і ўладальнікі дваранскіх прозвішчаў. Адна з іх, выпадкова сустрэтая на вуліцы і апранутая ў сціплыя шубейку і валёнкі, Вера Палонская, убачыўшы мае спробы яе сфатаграфаваць, спачатку засаромелася. А потым настрой у жанчыны рэзка змяніўся: у вачах уключыліся нябачныя лічыльнікі, і Вера... настойліва пачала патрабаваць: "Дайце мне грошай! У мяне няма грошай!".

Узгадваючы Амерыку, напрыклад, успамінаю, што грошы за "выкарыстанне знешняга выгляду" патрабуюць у фатографаў жабракі на паперці і некаторыя чорнаскурыя нью-йоркскія абібокі. А ў нас, на Беларусі, гэтую хваробу падхапілі жанчыны з дваранскімі прозвішчамі.

Акрамя праваслаўнага храма, які распісаў Алесь Пушкін, у Бабры ёсць пратэстанцкая царква ды разваліны каталіцкага касцёла, цаглінамі якога ў свой час бальшавікі вымасцілі галоўны "праспект" мястэчка, а нью-бальшавікі з цяперашніх улад імкнуцца на яго месцы зрабіць кірмаш.

А яшчэ ў гэтай мясцовасці надзея нашай эканомікі — спіртзавод. Ён не працуе. Некаторыя жыхары спадзяюцца, што нехта з прадрымальнікаў яго ў рэшце рэшт прыватызуе, адрамантуе ды дасць бабро́ўцам працу, а ўсім — таннае і надзейнае "пойла".

Раней, як сведчаць старажылы, у Бабры было больш, чым за 3000 жыхароў, зараз, пры рынкавым сацыялізме, лічба стала плаваючай: летам — каля дзвюх тысяч, зімой — крыху больш за адну.

"Ці не сумна табе тут? — пытаюся ў Алеся. — Можа, надышоў час у Нямеччыну "лыжы навастрыць"?" "Не, ніколі не з'еду з Беларусі, — адказвае Пушкін. — Тут Радзіма мая ды Яначка мая каханая".

Дарэчы, жонкі Алеся Яніны падчас майго візіту дома не аказалася, але ж пакінула вельмі смачны слаісты пірог хатняга гатунку. Мне так спадабаўся гэты пірог, што паабяцаў абавязкова прыехаць да Пушкіных яшчэ: магчыма, летам, калі Алесь наладзіць чарговую імпрэзу — адлоў русалак у рачулцы.

Праязджаючы Бобр, любы вандроўнік, безумоўна, заўважыць бел-чырвона-белы сцяг, які горда лунае над хаткай не зусім звычайнага яе гаспадара.

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**
*м. Бобр Крупскага раёна.*



*Сучасная бабро́ўская лэдзі Вера Палонская.*



*Праваслаўны званар і мастак Алесь Пушкін.*

ЭХО

# Золушка — не в ловушке

В газете "Народная воля" 6 октября 2001 года была опубликована статья "Ловушка для Золушки", в которой приводятся обстоятельства якобы грубого, невнимательного отношения к гражданке Беларуси Марии Б. со стороны сотрудника консульского отдела Посольства Беларуси в Польше.

В этой связи Министерство иностранных дел Республики Беларусь изучило факты, изложенные в статье "Ловушка для Золушки", и информирует о следующем.

Действительно, 24 августа 2001 года в конце рабочего дня в консульский отдел Посольства Беларуси в Польше обратилась гражданка Беларуси Мария Б. с просьбой об оформлении ей паспорта взамен украденного в Польше и оказании ей денежной помощи для приобретения билета на самолет до Парижа. При посещении консульского отдела Марию Б. сопровождали трое граждан Франции.

Сотрудник консульского отдела выяснил обстоятельства пропажи документов, выслушал просьбу Марии Б. и разъяснил заявительнице, что для оформления паспорта ей необходимо возвратиться в Беларусь и обратиться в паспортную службу по месту жительства, а для пересечения границы консульский отдел после соответствующей проверки оформит свидетельство на возвращение. За данное консульское действие, согласно тарифу оплаты консульских услуг, посетители оплачивают 210 польских злотых (при наличии денег). Также была предложена помощь в обеспечении бесплатного проезда до Беларуси, от чего Мария Б. отказалась.

Марии Б. и сопровождавшим ее гражданам Франции было разъяснено, что данная процедура регламентирована правовыми нормами и ведомственными инструкциями и исключает возможность оформления белорусским загранучреждением документов, дающих право Марии Б. продолжить свою поездку во Францию. Заполнять заявление для получения свидетельства на возвращение Мария Б. не стала и вместе с гражданами Франции покинула консульский отдел Посольства Беларуси.

На следующий день, в субботу, Мария Б. повторно обратилась в консульский отдел, заполнила заявление на получение свидетельства на возвращение, приложила к нему копию справки из комиссариата полиции о том, что у нее похищен паспорт, а также ксерокопии страниц украденного паспорта.

Сотрудник консульского отдела, в соответствии с требованиями Инструкции по выдаче свидетельств на возращение, произвел проверку достоверности указанных Марией Б. данных и оформил свидетельство на возращение. Один из сопровождавших ее оплатил консульский сбор в размере 210 польских злотых.

При получении свидетельства Мария Б. никаких претензий не предъявляла, жалоб и заявлений от нее не поступало. От предложений сотрудника консульского отдела оказать содействие в бесплатном проезде до Беларуси Мария Б. повторно отказалась, сказав, что ее довезут французские друзья.

В соответствии с нормами международного права, имеющими отражение практически во всех национальных законодательствах, ответственность за создание условий проживания, оказание медицинской помощи, обеспечение безопасности пребывания приглашаемого иностранного гражданина несет организация или лицо, приглашающее иностранца. Такую обязанность брал на себя французский гражданин при получении от родителей несовершеннолетней нотариально заверенного согласия на ее самостоятельный выезд за границу. Более того, французское законодательство предполагает обязательное страхование приглашаемых иностранцев, поэтому сопровождающий Марию Б. гражданин Франции старался выполнить то, что обязан был делать по закону.

Процесс проверки и установления личности граждан, обращающихся в загранучреждения при утрате паспортов, оформление им документов, необходимых для пребывания за границей, не имеет больших различий во всех зарубежных консульских учреждениях и является платной услугой.

Кроме того, консульский отдел Посольства Республики Беларусь в Польше — единственное зарубежное консульское учреждение в Варшаве, осуществляющее дежурство в выходные и праздничные дни с целью оказания помощи своим соотечественникам, попавшим в затруднительное положение в Польше.

Действия сотрудников консульского отдела посольства по реализации функций защиты прав и интересов гражданки Беларуси Марии Б. проводились в строгом соответствии с требованиями нормативных актов, ведомственных инструкций, регламентирующих порядок оказания помощи гражданам Беларуси, утратившим документы.

Министерство иностранных дел обращает внимание на то, что факты, изложенные в статье "Ловушка для Золушки", опубликованной 6 октября 2001 года в газете "Народная воля", являются не подтвердившимися.

Справка: консульским отделом посольства в течение 2000—2001 годов было выдано 953 свидетельства на возвращение белорусских граждан, пострадавших от преступных посягательств и утративших вследствие этого паспорта в Польше. Более 65% этих свидетельств выдается под расписку об уплате консульского сбора на территории Беларуси, хотя практически никто этот сбор по возращении в Беларусь не оплачивает. В экстренных ситуациях гражданам оказывается денежная помощь до 20 польских злотых (около 5 долларов США), абсолютному большинству оказывалось содействие в бесплатном проезде до Беларуси, предоставлялась возможность переговорить по телефону с родственниками.

**Пресс-служба МИД Республики Беларусь.**

# Запутали финансы и романсы

**3 октября 2000 года в Республике Беларусь был принят Банковский кодекс. Однако при ознакомлении с его содержанием выясняется масса нарушений мировых стандартов правового регулирования банковских правоотношений. Применение кодекса в силу этого становится проблематичным или невозможным. Прежде всего это касается Особенной части кодекса о самих банковских операциях.**

Банк выполняет, согласно ст.8 кодекса, три основных вида банковских операций. Первый — пассивные банковские операции по привлечению денежных средств во вклады и под выпуск банком ценных бумаг, при этом сумма привлеченных средств должна носить постоянный характер в течение срока вклада. Второй вид — размещение привлеченных денежных средств от своего имени и за свой счет на условиях возвратности, платности и срочности в форме различных ссуд и кредитов — активные операции. И, наконец, третий вид — открытие и ведение банковских счетов клиентов, эти банковские операции принято называть посредническими или посредничеством в платежах.

Каждый вид банковских операций основывается, как правило, на одном правовом договоре. Так, пассивные операции основываются на договоре банковского вклада, по которому банк имеет только обязанности, а клиент — только права. Посреднические операции основываются на договоре текущего (расчетного) банковского счета, дополнительно к которому клиент может открыть доверительный счет по управлению денежными средствами. Активные операции основываются на кредитном договоре, который имеет разновидности, далеко не все из которых указаны в кодексе. По этим договорам у сторон имеются как права, так и обязанности, в отличие от договора банковского вклада.

Тем не менее в раздел пассивных операций включены договоры, не имеющие отношения ни к пассивным операциям, ни к договору банковского вклада. Это — главы о банковском текущем (расчетном) счете и о доверительном управлении. В результате нарушается правильное представление о пассивных операциях и порядок их правового регулирования. Ведь права и обязанности сторон по банковским сделкам различны. Так, например, по пассивной операции обязанность платить проценты лежит на банке, а по остальным операциям, в том числе основанным на договоре текущего (расчетного) банковского счета, клиент обязан платить банку за оказываемые им услуги.

В разделе активных операций не указана одна из наиболее распространенных учетная операция, представляющая собой покупку банком ценных бумаг, как правило, векселей, и лизинг, представляющий собой финансирование клиента для приобретения им объектов аренды, как правило, технических средств. Отдельные правовые положения об этих операциях разработаны и действуют на территории РБ уже не первый год, а в кодекс в соответствующий раздел они не включены, что влечет неосведомленность пользователей кодекса обо всех услугах банка по кредитованию.

В кодексе нет ответа, за некоторыми исключениями, о правовом регулировании таких объектов банковских правоотношений, указанных в статье 10 кодекса, как валюта, ценные бумаги и валютные ценности.

**Мария Петровна КАЩЕНКО,**
**юрист, бывший преподаватель банковского права, госслужащий 5-го класса в отставке.**

# Мрачный калейдоскоп

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Оштрафован активист ОГП Владимир Романовский за участие в акции 25 апреля в Минске; координатор "Независимого наблюдения" в Минске Алексей Галич; председатель могилевской городской организации ОГП Владимир Гайдуков — за акцию "Хотим знать правду!". Такому же наказанию подверглись лидер молодечненских "зубров" Андрей Осмоловский; витебский предприниматель Василий Игнатенко — за участие в кампании "Выбирай"; юный брестчанин Алесь Левчук — за распространение брошюры "Конституция Белобрысии"; лидер молодечненского отделения БХК Эдуард Баланчук — за бело-красно-белый флаг; региональный координатор "Независимого наблюдения" в г/п Шарковщина Василий Грамович — за участие в избирательной кампании.

От трех до 15 суток ареста получили независимый наблюдатель из Климовичей Василий Васильченко, координатор "Независимого наблюдения" по Белыничскому району Олег Метелица, лидер МФ Павел Северинец за пикет против продажи Минского автозавода российской компании, жительница Бреста Галина Панасюк — за распространение спецвыпуска "Нашай Свабоды".

Завели криминальное дело на белыничского координатора "Независимого наблюдения" Олега Метелицу за найденные во время обыска наклейки "Зубра", в которых усмотрели оскорбление чести и достоинства А.Лукашенко; на активистов могилевского штаба Гончарика Виктора Ясюкевича и Тамару Левскую — якобы за избиение майора милиции Ладисова; на сотрудников газеты "Вольны горад" Сергея Неровного, Вадима Стефаненко и Николая Моторенко — за якобы незаконное задержание работника милиции; на бывшего руководителя Свободного профсоюза Минского автозавода Михаила Маринича, обвиняемого в краже профсоюзных взносов.

### "Мягкие" инструменты

В некоторых случаях власть использует не судебную машину, а "мягкие" экономические инструменты. Так, лишился работы социальный педагог школы №1 Владимир Олехнович за агитационную деятельность в Крупках. Уволена с работы координатор "Независимого наблюдения" в Молодечно Нелли Шлойда, которая заведовала городской аптекой. Начались репрессии против представителя БХК, доктора санатория в Березино Тамары Кот. Потерял работу сопроводитель почты в Лоевском районном узле Валерий Конопляник за участие в "Независимом наблюдении". Лишен месячного заработка редактор могилевского областного радио Геннадий Мартынов за то, что носил майку "Скажем дураку — нет!" и распространял эти майки среди своих сотрудников. Не дают работать по совместительству, а также судят руководителя солигорского профсоюза образования Александра Талпека за участие в избирательной кампании. В Бресте подвергаются давлению руководители некоторых предприятий за то, что не обеспечили победу А.Лукашенко на своих участках. После одного из таких совещаний заместитель директора завода "Цветотрон" Николай Корецкий обратился за медицинской помощью. Пришлось уволиться из Государственного концертного оркестра под руководством Финберга народной артистке Беларуси Зинаиде Бондаренко — за участие в избирательной кампании на стороне оппозиции. Последний случай показателен. Власть не побоялась продемонстрировать, что в стране действует запрет на профессию. Первыми под него подпали почти все депутаты Верховного Совета, подписавшие импичмент президенту.

### Жесткие кулаки

"Мягкие" экономические инструменты воздействия на непокорных граждан дополняются более чувствительными мерами. Так, был сильно избит редактор незарегистрированной газеты "Шклоўскія навіны" Александр Щербак. В одном из номеров его газеты серьезно критиковался руководитель районной вертикали Александр Агеев. Трое неизвестных избили Леонида Миндлина, автора документальных фильмов о Беларуси. Как и Щербака, его били чем-то твердым, поломали ребра. Были избиты бобруйские наблюдатели Дмитрий Барышников и Олег Буцанец, когда они опрашивали жильцов о голосовании 9 сентября. В Рогачеве был сильно избит лидер местного отделения незарегистрированной организации "Зубр" Дмитрий Шкульков. Ему пришлось лечь в больницу. Поэта и барда Валерия Позднякевича избила милиция за то, что говорил по-белорусски. Очередной раз "повоздействовали" на семью Чигиря, теперь ограбили их загородный дом. Не остается без "внимания" католическая церковь, на Гродненщине участились случаи краж в храмах и домах ксендзов.

В последние месяцы были зафиксированы новые "наезды" на общественные организации и независимые СМИ. Сергей Атрощенко, владелец 60% акций газеты "Свободные новости" вступил в спор с журналистским коллективом. Пока страсти вокруг газеты улеглись, и она продолжает выходить. Огромным штрафным санкциям подвергнута "Народная воля". Предупреждение от Госкомпечати (с недавней поры называется министерством) получил "Брестский курьер". А газета "Пагоня" вообще "прихлопнута". Конфискованы четыре компьютера и ризограф у оршанской независимой газеты "Куцейна". Министерство юстиции аннулировало регистрацию "Задзіночання беларускіх студэнтаў". Несмотря на прекращение следствия против гомельского объединения "Гражданские инициативы" и молодежного центра "Гарт", КГБ не возвращает отобранной у них оргтехники. Прекращено финансирование светлогорского филиала Белорусского лицея. За организацию протестных пикетов лицеистов вызывали в милицию. В Мостах не зарегистрирована организация Свободного профсоюза. В Минске прекращено финансирование руководящих органов Федерации профсоюзов.

### Пятна на мундире

Который год А.Лукашенко стремится в Европу, желая получить ее признание. Но чтобы стать европейцем, надо подчиниться общепринятым правилам, уважать человека и его права. На европейском континенте общаются с цивилизованными лидерами и игнорируют диктаторов.

Белорусская власть пытается после выборов предстать в цивилизованном мундире, не показывая его изъянов. Но европейские наблюдатели их заметили. Руководитель группы наблюдателей ПАСЕ Стефан Горис заявил: "Репрессии политического режима, нарушение свободы слова, недемократическое законодательство, которое создало благоприятные условия для подлогов и нарушений, являются теми факторами, которые доказывают, что белорусские власти не придерживались демократических стандартов, особенно во время избирательной кампании". Представитель Джоржа Буша Ари Флейшер сказал более откровенно: "Александр Лукашенко, последний диктатор Европы, украл у белорусского народа не только результаты выборов, но и возможность вернуться на путь демократии и рыночной экономики". В ответ из белорусского МИДа продублировали: "Намерение Вашингтона отвергнуть результаты выборов и навязать европейскому сообществу линию на отказ от сотрудничества с белорусским правительством лишний раз подтверждает стремление США любым путем сменить государственный строй в Республике Беларусь".

Несмотря на эти окрики, Европа снова дает шанс владельцу мундира поправить пошатнувшееся реноме и подчиниться известным четырем демократическим условиям.

Террористические акты против США 11сентября на время отодвинули на задний план кражу выборов на Беларуси. Но после трагических американских событий проснулся интерес к тем, кто напрямую или косвенно, но сотрудничает с террористами. В поле зрения попала Беларусь. В октябрьском номере авторитетного польского журнала "Wprost" утверждается, что Беларусь обеспечивает оружием террористов во всем мире. "В обмен за продажу в 1998 году 8 самолетов МИГ-29 в Перу Альберто Фухимори распорядился о размещении в перуанских банках лукашенковских денег от нелегальной продажи оружия. Оружие, которое продавала Беларусь, поддерживало большинство военных конфликтов и в Африке. Ангольская УНИТА покупала у Лукашенко танки и системы "Смерч", Судан — ракеты "Град", танки Т-55 и вертолеты МИ-24, Алжир приобрел МИГи, а Марокко — танки. Белорусское оружие использовали также во время гражданской войны в Руанде. Благодаря торговле с африканскими странами режим Лукашенко попал в первую десятку мировых экспортеров оружия". В статье также утверждается, что Минск является самым большим поставщиком оружия для мусульманских экстремистов и албанских повстанцев.

***

Я представила неполную картину нарушений прав человека в Беларуси за вторую половину сентября и октябрь. На тревожные размышления наводит эта информация. Когда, скажите, когда Беларусь станет цивилизованным государством?

